Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на ½ г. 2 р. 50 к.
VIII. ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 10 (132) | 9 верасьня 1932 г. | № 10 (132)



## ЗЬМЕСТ.



## Па Народнаму Камісарыяту Працы БССР:

### 30. Пастанова пра ўстанаўленьне адзінай сыстэмы аплаты працы шофэраў грузавых машын і аўтабусаў у залежнасьці ад кваліфікацыі і танажу машын.

. Для ліквідацыі ўраўнілаўкі і абязьлічкі, замацаваньня кваліфікаваных кадраў на вялікатанажных машынах і ўвязкі зарплаты шофэраў з колькасьцю і якасьцю працы НКП БССР, на падставе п. 5 пастановы НКП СССР за 26 чэрвеня 1932 году, пастанаўляе:

1. Устанавіць ва ўсіх прадпрыемствах і ўстановах адзіную сыстэму аплаты працы шофэраў грузавых машын, аўтабусаў, у залежнасьці ад іх кваліфікацыі і танажу машын у наступных разьмерах у месяц для мясцовасьцяй БССР:

| Групы, тыпы і танаж машын | 1-я катэгорыя | | 2-я катэгорыя | | 3-я катэгарыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мясцовасьці 1-й групы | Мясцовасьці 2-й групы | Мясцовасьці 1-й групы | Мясцовасьці 2-й групы | Мясцовасьці 1-й групы | Мясцовасьці 2-й групы |
| 1. Грузавыя аўтамашыны (бартавыя) грузапад'ёмнасьцю звыш 5 тон (6, 7, 8, 9 і 10), грузавыя аўтамашыны з рознага роду мэханічнымі прыстасаваньнямі для пагрузкі і перавозкі грузаў грузапад'ёмнасьцю ня менш 3-х тон (краны, экскаватары, фэрмы, драбіны і асэнізатары). Аўтабусы шматмясцовыя (звыш 16 месц.). Машыны хуткай дапамогі . . . . . . . . . . | 347 | 312 | 288 | 259 | 239 | 215 |
| 2. Грузавыя аўтамашыны (бартавыя) грузападёмнасьцю ад 3½ да 5 т. уключна (у тым ліку самазвалы, нафтаўкі і палівачныя машыны таго-ж танажу). Аўтабусы маламясцовыя (16 месц, або менш). . . . . . . | 288 | 259 | 238 | 215 | 202 | 182 |
| 3. Грузавыя аўтамашыны грузапад'ёмнасьцю ў 2½ і 3 тоны (ў тым ліку самазвалы, нафтаўкі, палівачныя машыны таго-ж танажу. . . . . . | 238 | 215 | 202 | 182 | 173 | 158 |
| 4. Грузавыя аўтамашыны грузапад'ёмнасьцю ніжэй 2-х тон (у тым ліку самазвалы, нафтаўкі і палівачныя машыны таго-ж танажу) . . . . . | 202 | 182 | 175 | 158 | 157 | 142 |

Да мясцовасьці першай групы адносяцца гарады: Менск, Віцебск, Гомель.

Да мясцовасьцяй 2-й групы адносяцца ўсе астатнія гарады і раёны БССР.

2. Паказаныя ў артыкуле першым месячныя разьліковыя стаўкі выплачваюцца шофэрам, якія працуюць на зьдзельшчыне, за выкананьне месячнай нормы выпрацоўкі.

Для шофэраў, якія працуюць на пачасовай аплаце, гэтыя стаўкі паніжаюцца на 20 проц.

На час работы на аўтамашыне з прычэпам разьліковая стаўка шофэра павышаецца на 15 проц. з павялічэньнем нормы за работу прычэпа.

3. Шофэрам, якія працуюць на легкавых машынах, зарплата ўстанаўляецца па акладах, устаноўленых у парадку дзяржнармаваньня.

4. Апрача зарплаты ўстанаўляюцца наступныя віды прэміяваньня шофэраў:

а) за захаваньне аўтамашыны (эканомія па артыкуле плянавых расходаў на рамонт);

а) за эканомію гаручага і змазачнага масла

в) за эканомію гумы.

Прэмія выплачваецца ў разьмеры да 60 проц. ад фактычна дасягнутай эканоміі па данай машыне.

УВАГА. 1. Прэмія за захаваньне аўтамашыны выплачваецца адзін раз у квартал і толькі пры наяўнасьці канкрэтна ўстаноўленай сумы эканоміі супроць устаноўленых прамфінплянамі, зацьверджанымі вышэйшымі гаспадарчымі органамі.

2. Прэмія за эканомію гаручага і змазачнага выплачваецца толькі пры наяўнасьці эканоміі і расходваньня супроць норм, устаноўленых Цудортрансам або яго органамі на мясцох.

3. Прэмія за эканомію гумы выплачваецца за кожны кілёмэтр прабегу звыш норм, устаноўленых у кандыцыйных умовах Гумтрэсту.

5. Рэгуляваньне зарплаты шофэраў незалежна ад іх ведамственнай або прафсаюзнай належнасьці ўскладаецца на саюз рабочых мясцовага транспарту ў парадку абавязковага ўзгадненьня ўсіх калдагавароў, норм, расцэнак і сыстэмы іх устанаўленьня з паказаным саюзам.

6. Шофэрам 3-й катэгорыі язда на аўгабусах забараняецца.

7. Устаноўленыя гэтай пастановай стаўкі ўводзяцца з 15 ліпеня 1932 году.

7. Галоўдартранс і ЦП саюзу транспартных рабочых Беларусі абавязаны:

а) у дэкадны тэрмін распрацаваць інструкцыю, якая ўстанаўляе кваліфікацыйныя запатрабаваньні для шофэраў кожнай катэгорыі;

б) арганізаваць работу кваліфікацыйных камісій, якія павінны да 1 жніўня перагледзець кваліфікацыі шофэраў, праводзячы гэту работу непасрэдна на прадпрыемствы.

9. У мэтах ліквідацыі абязьлічкі сярод аўтаработнікаў і правільнай аплаты працы сярод шофэраў у кожнай аўтагаспадарцы, дзе налічваецца больш дзьвюх машын, павінна быць замацавана за кожнай машынай па 3 шофэры.

10. Мясцовыя органы працы абавязаны пэрыядычна правяраць правільнасьць дастасаваньня гэтай пастановы і асоб, вінаватых у яе парушэньні, прыцягваць да адказнасьці ва ўстаноўленым парадку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Саламонаў**.

Нач. Сэктара арганізацыі працы і зарплаты НКП БССР **Іозэф**.

Узгоднена:

з ЦП саюзу транспартных рабочых—**Плікус**.

з Галоўдартрансам—**Фрумкін**.

з Белдырэкцыяй Саюзтрансу—**Буйкоў**.

## 31. Пастанова аб стаўках заработнае платы работнікам гарадзкіх пажарных каманд.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць для работнікаў гарадзкіх пажарных каманд БССР наступныя стаўкі заработнае платы з 1 верасьня 1932 г.:

| Назва пасады | Менск, Віцебск, Гомель | Магілёў, Бабруйск, Барысаў, Ворша, Полацак, Рэчыца, Мазыр | Астатнія гарады і мясцовасьці |
|---|---|---|---|
| 1. Нач. паж. ахвы гор. | 250, 275 | Магілёў, Бабруйск<br>Барысаў—200, 225<br>астатнія—150, 175 | 125, 150 |
| 2. Нам. " " " | 200, 225, 250 | — | — |
| 3. Паліткіраўнік . . . | 175, 200 | — | — |
| 4. Пажарны інспэктар . | 175, 200 | — | — |
| 5. Пажарны інструктар . . | 150, 165 | — | — |
| 6. Нач. цэнт. паж. часьці . | 150, 175, 190 | Магілёў, Барысаў<br>Бабруйск—150, 175<br>астатнія—125, 150 | — |
| 7. Нач. паж. часьці . . | 140, 160, 175 | 120, 135, 150 | — |
| 8. Пам. нач. цэнт. паж. ч. | 130, 145, 160 | — | — |
| 9. Пам. нач. паж. часьці. | 120, 135, 150 | — | — |
| 10. Шофэр—мэханік . . | 200, 225, 240 | 175, 200 | — |
| 11. Матарысты. . . . | — | 115 | 100 |
| 12. Ст. трубнікі і старшыя тапорнікі . . . | 95, 105 | 80, 90 | 75, 80 |
| 13. Спэц. ст. мэх. драбіны і ст. фурманы . . . | 90, 100 | 75, 80 | — |
| 14. Радавыя паж. звыш 1 г. | 90 | 75 | 65 |
| 15. Таксама ад 6 м. да 1 г. | 85 | 70 | 60 |
| 16. Таксама да 6 м. . . | 80 | 65 | 55 |
| 17. Тэлефаністы . . . | 75, 85 | 65, 70 | — |

2. Устанавіць для шофэраў пажарных каманд з 1 верасьня 1932 г. стаўкі зарплаты ў адпаведнасьці з іх кваліфікацыяй у наступных разьмерах:

| | Менск, Гомель, Віцебск | | | Магілёў, Бабруйск, Барысаў, Полацак, Ворша | | | Астатнія гарады | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I кат. | II кат. | III кат. | I кат. | II кат. | III кат. | I кат. | II кат. | III кат. |
| Шофэр цэнтр. пажарнай часьці . . . . . | 185 | 170 | 160 | 170 | 155 | 140 | 160 | 150 | 135 |
| Шофэры іншых пажарных часьцей . . . | 170 | 160 | 150 | 160 | 150 | 135 | — | — | — |

3. У межах паказаных акладаў адміністрацыя пажарных каманд устанаўляе разьмер аплаты пэрсанальна кожнаму працаўніку, улічваючы пры гэтым кваліфікацыю, аб'ём работы і якасьць яе кожнага працаўніка ў паасобку.

Ні ў якім разе не дапушчаецца агульнае аднясеньне ўсіх работнікаў да вышэйшых ставак і ўстанаўленьне аднолькавага разьліку аплаты працаўнікам рознае кваліфікацыі, нават калі яны выконваюць аднародную работу.

Час. вык. аб. Народнага Камісара
Працы БССР **Коньнікаў.**

Час. вык. аб. Нач. Сэктара Арганізацыі
Працы і Зарплаты НКП БССР **Нажніцкі.**

Узгоднена з:
ЦСПСБ—**Адам.**
НККГ—**Левін.**
НКФ—**Абрамсон.**
ЦП СРГП і ДР—**Юдзін.**

31 жніўня 1932 г.
№ 39.

## Па Народнаму Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі, Народнаму Камісарыяту Працы БССР і ЦП Саюзу работнікаў гарадзкіх прадпрыемстваў.

### 32. Абежнік аб мерапрыемствах па палепшаньні матарыяльнага становішча работнікаў пажарных каманд і ўзмацненьні працоўнай дысцыпліны.

*Усім аддзелам камунальнай гаспадаркі, інспэкцыям працы, начальнікам пажарнай аховы гарадоў, групкомам, мясцкомам, саюзу РГП і інш.*

У мэтах утварэньня спрыяючых умоў для стабілізацыі асабовага складу пажарных каманд і ўзмацненьня ўнутранага становішча іх Саветам Народных Камісараў БССР устаноўлены з 1 верасьня 1932 г. новыя, павышаныя стаўкі зарплаты і павышаныя нормы снабжэньня хлебам для работнікаў гарадзкіх пажарных каманд.

Для таго, каб дабіцца належных вынікаў ва ўзмацненьні баяздольнасьці пажарных каманд і каб унікнуць выключна фармальна-мэханічнага ажыцьцяўленьня паказанай пастановы СНК, неабходна разьвіць вакол гэтых мерапрыемстваў масавую работу ў напрамку павышэньня якасьці працы, ушчыльненьня працоўнага дню, узмацненьня працоўнай дысцыпліны, у адпаведнасьці з чым прапануецца:

1. Маючы на ўвазе, што павялічэньне зарплаты павінна праходзіць у межах бюджэтаў кожнага гораду і раёну, камунальным аддзелам своечасова аформіць пытаньне аб павялічэньні фонда зарплаты па адпаведнай пажарнай камандзе, забясьпечыўшы выдачу зарплаты пажарным працаўнікам па новых стаўках, пачынаючы з 1-ай паловы верасьня г. г.

2. Адміністрацыі і прафарганізацыям пажарных каманд устанавіць разьмер заработнае платы пэрсанальна кожнаму працаўніку ў межах устаноўленых ставак, улічваючы здольнасьці, адносіны да працы і кваліфікацыю кожнага работніка ў паасобку.

3. Начальнікам пажарнай аховы гарадоў ужыць захады да ўкамплектаваньня асабовага складу пажарных часьцей, давёўшы яго да зацьверджаных штатаў не пазьней 1 кастрычніка г. г., зьвяртаючы пры гэтым асаблівую ўвагу на якасны падбор людзей.

4. У мэтах устанаўленьня цьвёрдай, сьвядомай працдысцыпліны, адміністрацыі і прафарганізацыям пажарных каманд ужыць захады да палепшаньня масавай выхаваўчай работы, шырока практыкаваць мэтады грамадзкага ўзьдзейнічаньня і няўхільна праводзіць устаноўленыя меры дысцыплінарных спагнаньняў, адначасова выяўляючы і адзначаючы лепшыя ўзоры працы з прэміраваньнем лепшых работнікаў.

5. Адміністрацыі і прафарганізацыям пажарных каманд ужыць захады да арганізацыі і палепшаньня рабочага снабжэньня шляхам арганізацыі буфэтаў і сталовых альбо прымацаваньня да сталовых іншых прадпрыемстваў, арганізацыі сьвінаадкорму, трусагадоўлі, засолкі гародніны, саманарыхтоўкі прадуктаў і г. д., маючы на ўвазе, што забота аб належным снабжэньні работнікаў зьяўляецца важнейшым абавязкам прафарганізацый і адміністрацыі пажарных каманд.

6. Маючы на ўвазе палепшаньне жыльлёва-бытавых умоў працаўнікоў і забясьпечаньне наяўнасьці ў патрэбных выпадках рэзэрва рабочай сілы, камунальным аддзелам ужыць захады да арганізацыі інтэрнатаў для работнікаў пажарных каманд на месцы знаходжаньня пажарных часьцей.

7. Органам працы аказаць садзейнічаньне пажарным камандам у падборы працаўнікоў і прасачыць за правільным правядзеньнем у жыцьцё ўстаноўленых ставак зарплаты.

8. Камунальным аддзелам праз месяц прадставіць НК Камунальнай гаспадаркі дакладную запіску аб выкананьні гэтага абежніка.

Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР **Жуковіч**.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Саламонаў**.

За Старшыню ЦП Саюзу рабочых
Гарпрадпрыемстваў БССР **Табачнікаў**.

Зацьвярджаю.
Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР 5 верасьня 1932 г.
Жуковіч.

# СТАТУТ

## Дзяржаўнага Трэсту па снабжэньні камунальнага, жыльлёвага непрамысловага будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі „Белкамунснаб" пры НККГ БССР.

### I. Агульныя палажэньні.

1. Для цэнтралізаванага і камплектнага аперацыйнага снабжэньня камунальнага, жыльлёвага, непрамысловага будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі, а таксама падпарадкаваных ім прадпрыемстваў матарыяламі, тэхнічным і іншым абсталяваньнем, а таксама для снабжэньня ўсіх спажыўцоў прадметамі супроцьпажарнага абсталяваньня ўтвараецца Дзяржаўны Трэст па снабжэньні камунальнага, жыльлёвага і непрамысловага будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі „Белкамунснаб", дзейнічаючы на аснове палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29/VI-1927 г., які знаходзіцца ў непасрэдным веданьні Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

2. Белкамунснаб зьяўляецца самастойнай гаспадарчай адзінкай і дзейнічае на аснове гаспадарчага разрахунку, на падставе гэтага Статуту і ў адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі НККГ БССР.

3. Па ўсіх сваіх абавязацельствах Белкамунснаб адказвае толькі тэю сваёю маемасьцю, на якую, паводле чынных законаў, можа быць накіравана спагнаньне. Дзяржава за даўгі Белкамунснаба не адказвае.

4. Белкамунснаб мае ўсе правы юрыдычнай асобы з дня рэгістрацыі яго Статуту ва ўстаноўленым парадку.

5. Белкамунснаб мае права рабіць усе апярацыі, неабходныя для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у п. 1 гэтага Статуту, па ўсёй тэрыторыі СССР.

6. Белкамунснаб мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

### II. Статутны капітал, спэцыльныя капіталы і прыбытак.

7. Статутны капітал Белкамунснаба вызначаецца ў парадку ўвагі да арт. 10 „Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29/VI-1927 г. у суме 220.000 руб.

Апрача статутнага капіталу Белкамунснаб утварае:
а) амартызацыйны капітал,
б) капітал для арганізацыі і пашырэньня прадпрыемстваў,
в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых,
г) фонд фінансаваньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў і фонд сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

8. Амартызацыя маемасьці Белкамунснаба, вызначэньне разьмеру прыбытку і страт, разьмеркаваньне прыбытку і адлічэньні з яго ў спэцыяльныя капіталы і ў даход дзяржавы, пакрыцьцё страт, а таксама выдаткаваньне спэцыяльных капіталаў вытвараецца паводле ўстаноўленых палажэньняў.

## III. Функцыі Белкамунснаба.

10. Для ажыцьцяўленьня паказаных у арт. 1 гэтага статута мэт на Белкамунснаб ускладаецца:

а) выяўленьне патрэбнасьці камунальнай гаспадаркі і камунальнага, жыльлёвага непрамысловага будаўніцтва ў матарыялах і абсталяваньні, якія разьмяркоўваюцца ў цэнтралізаваным парадку;

б) рэалізацыя фондаў і кантынгэнтаў матарыялаў і абсталяваньня, якія разьмяркоўваюцца ў цэнтралізаваным парадку;

в) вытварэньне ўнеплянавых закупак будматарыялаў і абсталяваньня для камунальна-жыльлёвага будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі;

г) нарыхтоўка ўсіх відаў будматарыялаў мясцовага вырабу;

д) выяўленьне патрэбнасьці ўсіх спажыўцоў у прадметах супроцьпажарнага абсталявяньня, складаньне праектаў разьмеркаваньня і рэалізацыі гэтых прадметаў і снабжэньне імі спажыўцоў;

е) снабжэньне паказанымі вышэй матарыяламі і абсталяваньнем жыльлёва-камунальнага будаўніцтва і жыльлёва-камунальнай гаспадаркі робіцца па плянах і разнарадках, зацьверджаных НК Камунальнай Гаспадаркі БССР;

ж) арганізацыя аддзяленьняў і складаў-баз у больш буйных гарадох БССР;

з) рэалізацыя лішкаў і неліквідаў, якія знаходзяцца ў распараджэньні мясцовых органаў камунальнай гаспадаркі.

## IV. Кіраўніцтва Белкамунснаба.

11. На чале Белкамунснаба стаіць дырэктар, які назначаецца і звальняецца НККГ БССР.

12. Кіраўніцтва Белкамунснаба знаходзіцца ў г. Менску.

13. Дырэктар Белкмунснаба, пад агульным кіраўніцтвам НККГ БССР, ажыцьцяўляе паказаныя ў арт. 1 гэтага Статуту задачы, вядзе самастойна ўсю плянавую і аперацыйна-адміністрацыйную работу, кіруе справамі і знаходзячайся ў распараджэньні Белкамунснаба маемасьцю і капіталамі, робіць усе зьдзелкі і апярацыі, уваходзячыя ў кола дзейнасьці Белкамунснаба. У паасобку Дырэктар мае права:

а) назначаць і звальняць па ўзгадненьні з НККГ БССР адказных выканаўцаў;

б) заключаць каляктыўныя і паасобныя працоўныя дагаворы;

в) адчыняць бягучыя рахункі, падпісаваць чэкі, рабіць выдаткі і разрахункі, выдаваць даверанасьці з правам далейшага перадавер'я, іскаць і адказваць на судзе, а таксама прадстаўляць Белкамунснаб ва ўсіх адміністрацыйных установах, без атрыманьня асобнай даверанасьці альбо праз упаўнаважаных з агульнай ці спэцыяльнай даверанасьцю;

г) праводзіць неабходныя апярацыі ў крэдытных установах;

д) атрымліваць у карыстаньне і пад забудову зямельныя участкі;

е) адчужаць і закладваць права забудоўкі з дазволу НККГ БССР;

ж) заключаць з дзяржаўнымі, каперацыйнымі і інш. арганізацыямі і асобамі дагаворы, неабходныя для ажыцьцяўленьня задач, паказаных у арт. 1 гэтага Статуту;

з) складаць і прадстаўляць на зацьверджаньне НККГ БССР пэрыядычныя справаздачы, балянсы і праекты разьмеркаваньня прыбыткаў і страт;

і) распрацоўваць пытаньні вучоту, статыстыкі і справаздачнасьці;

к) разглядаць і зацьвярджаць балянсы і справаздачнасьць гаспадарча-разьліковых адзінак і аддзяленьняў, уваходзячых у склад Белкамунснаба;

л) кіраваць дзейнасьцю ўсіх уваходзячых у склад Белкамунснаба гаспадарчых адзінак і выдзяляць неабходныя для іх дзейнасьці матарыяльныя і грашовыя сродкі;

м) зацьвярджаць аперацыйна-фінансавыя пляны гаспадарча-разьліковых адзінак Белкамунснаба;

н) назначаць і звальняць кіруючы пэрсанал гаспадарча-разьліковых адзінак і аддзяленьняў Белкамунснаба;

УВАГА. Кіруючы пэрсанал аддзяленьняў і адзінак ажыцьцяўляе сваю працу на аснове адзінаначальля.

о) разьмяркоўваць абавязкі паміж дырэктарам і яго намесьнікамі;

УВАГА. Парадак подпісу выходзячых з Белкамунснаба папер устанаўліваецца дырэктарам. Дакуманты грашовага характару абавязкова падпісваюцца і Галоўным бухгальтарам Белкамунснаба

14. Дырэктар альбо яго намесьнік мае права беспасрэдна зносіцца з усімі ўстановамі і арганізацыямі, апроч ЦВК, СНК і СПА, а таксама ЦВК і ЭКАСА БССР; зносіны з гэтымі ўстановамі могуць утварацца толькі праз НККГ БССР.

15. Дырэктар і яго намесьнік нясуць дысцыплінарную, крымінальную і грамадзянскую адказнасьць як за цэласьць давераных ім маемасьці, так і за гаспадарчае вядзеньне спраў, паводле існуючых законаў.

## V. Справаздачнасьць Белкамунснаба і рэвізія яго дзейнасьці.

16. Штогод, пасьля сканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня па 31 сьнежня, дырэктар Белкамунснаба ва ўстаноўленыя тэрміны прадстаўляе ў НККГ БССР і ў іншыя належныя органы на разгляд і зацьверджаньне балянс і разьлік прыбыткаў і страт, а таксама праекты пакрыцьця страт і разьмеркаваньня прыбыткаў.

17. Рэвізія дзейнасьці Белкамунснаба ажыцьцяўляецца як НККГ БССР, гэтак і іншымі належнымі органамі, маючымі па гэта права, па ўзгадненьні з НККГ БССР. Дырэктар Белкамунснаба абавязан прадстаўляць для рэвізіі ўсе патрэбныя дакуманты, кнігі, перапіску і г. д. і аказваць рэвізуючым органам усякае садзейнічаньне для поўнага і тэрміновага выкананьня даручанай ім працы.

18. За выключэньнем выпадкаў, дакладна паказаных у дзейных законах, іншыя, апроч НККГ БССР, органы могуць у межах свае кампэтэнцыі даваць Дырэктару Белкамунснаба, а таксама прадпрыемствам і аддзяленьням паказаньні і патрабаваць ад іх прадстаўленьня справаздач і вестак ня інакш, як праз НККГ БССР,

## VI. Зьмены статуту Белкамунснабу.

19. Зьмены ў статуце Белкамунснаба робяцца на падставе загадаў НККГ БССР.

## VII. Спыненьне дзейнасьці Белкамунснаба.

20. Белкамунснаб спыняе сваю дзейнасьць ліквідацыяй, далучэньнем або падзелам, паводле арт. арт. 56—64 палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

10100.

Адказны Рэдактар І. Фрыдман.

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Галоўлітбел № 412. Зак. № 1189. Тыр. 4020.